Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№115 (628) 15 чэрвеня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617155 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Американская модель для Беларуси

**Интересные перспективы для нашей экономики открывает прошедшая в пятницу встреча Председателя Верховного Совета Республики Беларусь Станислава Шушкевича с представителями деловых кругов США во главе с директором "Стенфорд РБ Интернэшнл корпорэйшн" Вильямом Бекером.**

Состоялся обмен мнениями по осуществлению совместного проекта НПО Центр/технопарк. Станислав Шушкевич подчеркнул, что мнение о неблагоприятном характере законодательства в Беларуси для такого рода проектов не совсем соответствует действительности.

Американцы желают создать в Беларуси модель прибыльного предприятия и данный проект рассматривают как пионерский. Он позволит создать 200 тысяч рабочих мест. Практически впервые в таких масштабах осуществляется процесс постепенного перехода от государственной собственности к частной.

**Лариса КЛЮЧНИКОВА.**

### Дождались ультиматума?

**Только так можно расценить поступившую вчера в Национальный банк Беларуси правительственную телеграмму из Российской Федерации.**

А суть ее такова. До 1 июля белорусы обязаны принять окончательное решение: или они меняют свое законодательство и проводят с Россией единую денежно-кредитную и финансовую политику со всеми вытекающими отсюда последствиями, или вводят свою национальную валюту и остаются суверенным государством.

О решимости России расставить все точки над "i" свидетельствует ультимативный тон самой телеграммы. Похоже, что отступать некуда и придется белорусам решать, в каком государстве они хотят жить.

О дальнейшем развитии событий "Народная газета" будет оперативно информировать своих читателей.

**Александр МАКОВСКИЙ.**

### В лес ни ногой!

**Гомельский облисполком принял решение о дополнительных мерах противопожарной защиты лесов. Отныне до особого распоряжения населению запрещается заходить и заезжать в лес.**

Всяк туда входящий рискует подвергнуться штрафу в размере минимальной зарплаты, а должностное лицо — до трех минимальных зарплат.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**



### Вкратце

**Вчера прошла республиканская конференция по организации и осуществлению прокурорского надзора при разгосударствлении и приватизации, на которой присутствовал и выступил с речью С.С. Шушкевич.**

Отчет о конференции будет опубликован в ближайших номерах нашей газеты.

❑

**Вчера в Вене состоялось торжественное открытие Всемирной конференции по правам человека.**

В проводимой под эгидой ООН конференции участвуют министры иностранных дел, лауреаты Нобелевской премии мира, представители неправительственных национальных и региональных правозащитных организаций.

❑

**"Выйти на улицы и протестовать против новой колонизации Сомали" призвал вчера жителей столицы страны Могадишо лидер крупной сомалийской группировки Мохамед Фарах Айдид.**

В окружении своих ближайших соратников он объехал утром те районы города, которые подверглись минувшей ночью ракетно-бомбовому удару американских штурмовиков и вертолетов.

А МОЖЕТ, ЛУЧШЕ ПОПРОСИТЬ ?..

ЗАЧЕМ ? МЫ ПОСТРЕЛЯЕМ И ПОЛОЖИМ НА МЕСТО...

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Контрабандисты шлангом прикинулись

**Контрабандисты Венгрии и Сербии, судя по всему, не без оснований считают, что введенные ООН экономические санкции в отношении "малой Югославии" приграничному бизнесу не помеха.**

Венгерские дорожные рабочие, очищавшие территорию около контрольно-пропускного пункта Морахалом на венгеро-сербской границе, обнаружили зарытый в землю резиновый шланг.

Расследование показало, что контрабандисты создали своеобразный "трубопровод", соединивший два хутора — сербский и венгерский. По этой "связующей нити" через границу из Венгрии в Сербию поступало дефицитное из-за санкций для Югославии горючее.

**Сергей ЖИРНИХИН.**

### Изменений не предвидится?

**Состоялись матчи 33-го тура Национального чемпионата Беларуси по футболу.**

Вот их результаты: "Динамо" (Бр) — "Неман" — 1:2, "Днепр" — "КИМ" — 1:3, "Торпедо" (Мн) — "Торпедо" (Мг) — 2:0, "Беларусь" — "Ведрич" — 1:0, "Гомсельмаш" — "Молодечно" — 0:0, "Локомотив" — "Динамо" (Мн) — 2:4, "Строитель" — "Шахтер" — 0:0, "Торпедо" (Жд) — "Обувщик" — 0:1.

**Положение команд после 33-го тура**

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Динамо (Мн) | 31 | 25 | 5 | 1 | 85-23 | 55 |
| КИМ | 31 | 17 | 11 | 3 | 51-21 | 45 |
| Беларусь | 31 | 19 | 6 | 6 | 52-23 | 44 |
| Неман | 31 | 17 | 9 | 5 | 35-27 | 43 |
| Днепр | 31 | 16 | 7 | 8 | 51-32 | 39 |
| Фандок | 31 | 15 | 9 | 7 | 36-19 | 39 |
| Динамо (Бр) | 31 | 12 | 9 | 10 | 31-29 | 33 |
| Торпедо (Мг) | 31 | 9 | 13 | 9 | 33-29 | 31 |
| Торпедо (Мн) | 31 | 10 | 10 | 11 | 28-31 | 30 |
| Гомсельмаш | 31 | 9 | 8 | 14 | 22-37 | 26 |
| Шахтер | 31 | 8 | 10 | 13 | 18-32 | 26 |
| Локомотив | 31 | 7 | 11 | 13 | 27-38 | 25 |
| Молодечно | 32 | 7 | 10 | 15 | 34-40 | 24 |
| Строитель | 31 | 7 | 8 | 16 | 20-41 | 22 |
| Ведрич | 31 | 7 | 7 | 17 | 28-56 | 21 |
| Обувщик | 31 | 4 | 9 | 18 | 15-41 | 17 |
| Торпедо (Жд) | 31 | 2 | 4 | 25 | 17-64 | 8 |



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты" агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*Хроніка*

### Сустрэча прэм'ераў

**11 чэрвеня кіраўнік урада Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч сустрэўся ў прыгранічнай з Літвой беларускай вёсцы Гервяты Астравецкага раёна з прэм'ер-міністрам Літоўскай Рэспублікі Адольфасам Шлежавічусам.**

Пасля кароткай гутаркі за зачыненымі дзвярыма кіраўнікі ўрада паведамілі журналістам, што па некаторых важных пытаннях ім ужо ўдалося дагаварыцца. У прыватнасці, Вячаслаў Кебіч сказаў, што Беларусь у бліжэйшы час выплаціць Літве восем з дванаццаці мільярдаў рублёў запазычанасці за пастаўляемую нам з гэтай краіны электраэнергію. Ён таксама выказаў упэўненасць у тым, што Беларусь у хуткім часе зможа выкарыстоўваць літоўскія марскія порты.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, Белінфарм.**



## ПАЗІЦЫЯ

# Дык што ён думае, наш народ?

**І палітыкі, і многія дзяржаўныя дзеячы, аргументуючы сваю пазіцыю, часта гавораць: "Так думае большасць беларускага народа!" Але на чым часцей за ўсё грунтуецца такая ўпэўненасць? На размовах са знаёмымі? На выніках сустрэч з выбаршчыкамі, грамадскасцю гарадоў і вёсак?**

**Цяжка сказаць, бо "думкаю народа" вельмі часта прыкрываюцца супрацьлеглыя выказванні і прапановы. Вось і ў выпадку з магчымым уступленнем Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі і прыхільнікі, і праціўнікі такога кроку зноў спасылаюцца на голас народа, прыводзяць вынікі розных сацыялагічных даследаванняў. І атрымліваецца, што ў адных сацыёлагаў народ Беларусі ўсімі рукамі за ваенны саюз, у другіх — супраць.**

**Дык што ж ён сапраўды думае, наш народ? Сёння мы прадастаўляем магчымасць выказацца простым людзям Беларусі, тым самым, на каго спасылаюцца нашы палітыкі. Шчыра прызнаюся, вельмі цяжка было выбраць з вялікай колькасці допісаў тыя, якія сёння мы друкуем ў нашай газеце. Мяне ні кропелькі не цікавіла, хто аўтар таго ці іншага ліста, я стараўся выкарыстаць тыя, у якіх гучаць новыя аргументы. Бо якая карысць зноў паўтараць тое, што ўжо ўсе ведаюць?**

**Таму я прашу прабачэння ў аўтараў, лісты якіх мы змясціць не змаглі. Але хачу назваць іх, як кажуць, пайменна. Гэта**

***Ядвіга Станіславаўна КІСЛІЦКАЯ з Валожынскага раёна, Ігар Нікадзімавіч ПРОТАС з Гродна, Валянціна Аляксандраўна ПАЛЯШУК з Мінска, Лявон БЯДУЛЯ з Дзятлаўскага раёна, А.Е.АЎРАМЕНКА з горада Буда-Кашалёва, сям'я ЛЕБЕДЗЕВЫХ з Мінска, Мінская абласная ўстаноўчая канферэнцыя АДПБ, А.А.СЦЕПАНЮК з Мінскага раёна, Н.ПАРХОМІК, В.ГАРЧАКОЎ, Л.ЗДАНОВІЧ і іншыя (усяго 12 подпісаў) з Івацэвіч, сям'я ШАБЛІЦКІХ з Клецкага раёна, Г.Г.ТАРАСЕВІЧ з Гродна, Вольга Канстанцінаўна і Мікалай Данілавіч ПУКАЛЫ з Пінска, Цімафей АЛЯКСЕЕНКА з Магілёва, Людміла Леанідаўна ЯКУШЭНКА з Гомеля, аргкамітэт грамадска-палітычнага аб'яднання імя Кастуся КАЛІНОЎСКАГА з Гродна (109 подпісаў), К.Р.КУЛАГА з Воранаўскага раёна, Мікола ШУТ з Баранавіч, Юрый Іванавіч КЛІНЦОЎ з Гомеля, сем'і ІУЛЕВЫХ, МАЛАШКА, ПАДВІЦКІХ з Мінска, Адам ГУРЫНОВІЧ са Старобіна, Ніна Аляксееўна БРАТЧЭНЯ з Мінска, Васіль ІГНАЦЕНКА з г.п. Рубы, Б.В.САМСОНАЎ з Рагачова, І.Ф.МАЧУЛЬСКІ з Глыбокага, І.І.ВІНІЧЭНКА і яшчэ 38 жыхароў вёскі Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна, М.КАБАЧЭЎСКІ з Оршы, ветэран пагранічных войск Канстанцін ЗУБІК з Ляхавіцкага раёна, сям'я ВАЛАСЮКОЎ з Ганцавіч, рабочыя Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне, Н.Н.НАВАЧУК з Мінска, Ф.Т.СМАЛЮК з Мінска, У.Б. МЕЛЬНІК са Старых Дарог, былы камандзір партызанскага атрада, інвалід ВАВ II групы Уладзімір Мікітавіч ПРЫГОДЗІЧ з Пінска, Лаўрэнцій Сямёнавіч ЖАЛЕЗНЯКОЎ з Гомеля, Мікола СЛАЎЯНАЎ з Белаазерска, М.О.КАПЦЮГ з Міёрскага раёна, Хрысціянская злучнасць "Курапаты" з Мінска, Б.В.ДАВІДОВІЧ са Старадарожскага раёна, Іван Данілавіч Сакута з Баранавіцкага раёна, Антон Іванавіч ЛІПЕНЬ з Мінскага раёна, Вячаслаў СВІЗУНОЎ з Клічаўскага раёна, А.І.КАЗАЧКОЎ з Гомеля, старшыня аб'яднання "Палессе" з г.Пінска К.УДАВІДЧЫК, Уладзімір Паўлавіч ЦЫБУЛЬСКІ з г.п.Узда, Міхаіл Іванавіч САДОЎСКІ з Бялыніч, А.ВІНІТОЎСКІ з Баранавіч, Леанід Іванавіч НОВІКАЎ з Брэста, Мікола Жук з Наваполацка, С.В.ГАЎРЫЛЮК з Брэста, Віктар ЛАТУШКА З Мінска, народны дэпутат Добрушскага гарсавета Уладзімір БАРОДЗІН, І.С.РАТКЕВІЧ з Гродна, Міхаіл Антонавіч ВАСІЛЕЦ з Жыткавіцкага раёна, Мікалай Іванавіч СЕЛЮЖЫЦКІ з Жабінкі, А.А.СЦЕПАНЮК з Мінскага раёна.***

**Усе вышэйназваныя аўтары выказаліся супраць уступлення Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі. І толькі чатыры лісты атрымала рэдакцыя "Народнай газеты", аўтары якіх падтрымліваюць ініцыятыву прэм'ер-міністра наконт падпісання дагавора аб калектыўнай бяспецы. Але, каб народныя дэпутаты, якія выступаюць за ўваходжанне Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі, не палічылі наш выпуск тэндэнцыйным, тры з іх мы вырашылі змясціць ў сённяшняй падборцы. Кожны чалавек мае права выказацца, і асабліва патрэбна яму гэта права, калі ён застаецца ў меншасці.**

**Дык што ён думае, наш народ? Чытайце падборку, а калі не верыце, што прапорцыя пісьмаў нашых чытачоў, якія выступаюць "за" і "супраць" уступлення Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі менавіта такая, то і ў гэтым вы пераканаецеся, калі зойдзеце ў рэдакцыйны пакой N 270 і пазнаёміцеся з поштай асабіста. Дзверы "Народнай газеты" для ўсіх адчынены...**

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ, палітычны аглядальнік "Народнай газеты".**

*Паслухайце мяне*

## ...Калі ўрокаў гісторыі мала?

Я, як радавы беларускі абывацель, хачу выказаць сваё меркаванне аб ініцыятыве Старшыні Саўміна Беларусі і прынятым большасцю Вярхоўнага Савета рашэнні заключыць з Расіяй (і некаторымі іншымі дзяржавамі СНД) эканамічны і ваенны саюз.

Перш-наперш, насцярожвала тое, што ініцыятарам гэтага саюзу стаў Саўмін Беларусі, той самы Саўмін, які за часы свайго існавання ні ў чым сябе не праявіў.

Па-другое, калі і Расія і Беларусь сталі на шлях рыначнай эканомікі, дык як зможа ўрад Расіі прымушаць свае прадпрыемствы прадаваць Беларусі ці беларускім прадпрыемствам тавары ці сыравіну танней, чым яны маглі б прадаваць іх, напрыклад, Літве?

На сённяшні дзень становіцца ўсё відавочней, што пры разліках за прадукцыю ці сыравіну паміж прадпрыемствамі ўсіх дзяржаў цэны будуць устанаўлівацца сусветныя і падарункаў адны дзяржавы рабіць другім не будуць.

Але, не маючы ніякага стратэгічнага плана вываду нашай эканомікі з тупіка, Саўмін хапаецца за саломінку і, разлічваючы на нейкую расійскую ін'екцыю ў эканоміку Беларусі, гатоў аддаць ёй у абмен за гэта наш суверэнітэт.

Па-трэцяе, калі зазірнуць у гісторыю, то што даў Беларусі саюз (калі можна так сказаць) з царскай Расіяй, а потым з савецкай Расіяй? Украіна, напрыклад, ад такога саюзу з Расіяй атрымала, дзякуючы расійскай зброі, мабыць, каля 1/3 сваёй тэрыторыі. А за тое, што Беларусь на працягу 200 гадоў пастаўляла ў расійскую армію сваё гарматнае мяса для пашырэння Расійскай імперыі, Масква аддзякавала тым, што адабрала ў Беларусі 1/3 тэрыторыі і выкарыстоўвала яе як разменную манету ў палітычных таргах з Польшчай і Літвой, ды і сябе не пакрыўдзіла, прылучыўшы Смаленскую вобласць. Хіба гэтага ўрока гісторыі на сённяшні дзень для Беларусі мала?

Па-чацвёртае, хто нам пагражае сёння, чаму нам так стаў патрэбен гэты саюз? Пагроза, як правіла, зыходзіць ад суседніх дзяржаў. У нас пяць суседзяў: Расія, Украіна, Польшча, Літва і Латвія. Ад якой з гэтых пяці краін хутчэй за ўсё мы можам чакаць пагрозы і дзеля чаго мы ўвогуле ўтрымліваем сваё даволі вялікае войска? Літва і Латвія адпадаюць. Застаюцца Расія, Украіна і Польшча. І гэтую пагрозу з боку трох дзяржаў я падзяліў бы, улічваючы многія фактары гістарычнага, дэмаграфічнага, ваеннага, культурнага і іншага характару такім чынам: Расія — 70%, Польшча — 20%, Украіна — 10%.

Дык вось, атрымліваецца, што калі гаварыць аб ваенным саюзе Беларусі, то трэба яшчэ добра падумаць, з кім і супраць каго нам неабходна сёння заключаць такі саюз.

Па-пятае. Якія ж адносіны збіраюцца будаваць наш Саўмін і абрусела-кампартыйная большасць Вярхоўнага Савета з астатнімі суседзямі, заключаючы ваенны саюз з Расіяй?

Як будуць глядзець пасля гэтага на Беларусь на Украіне, у Польшчы, у Літве і Латвіі, ды і ўіншых краінах? Як на незалежную нейтральную дзяржаву ці як на мілітарызаваны дамініён Расіі, з тэрыторыі якога будзе зыходзіць пагроза іх незалежнасці?

І яшчэ цікава было паслухаць аргументы трох нашых міністраў за ўступленне Беларусі ў ваенны саюз з Расіяй. Калі сказаць вельмі каротка, то ні адзін з іх не вытрымаў экзамену на грамадзянскую мужнасць і нацыянальны патрыятызм.

Іх выступленні былі па прынцыпу "чего изволите, господин начальник?"

**Іван МАЛЫШКА.**

*г. Слуцк.*

*Адкрыты ліст да большасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Рэанімаваць імперыю?

Спадары дэпутаты! Нягледзячы на рашучыя пратэсты грамадскасці і здаровы сэнс, вы вырашылі далучыць нашу Бацькаўшчыну да вайсковага хаўрусу з Расіяй.

Каб захаваць сваю ўладу над нашым шматпакутным народам, вы імкняцеся рэанімаваць і адрадзіць імперыю. Дзеля гэтага вы гатовы скасаваць нейтралітэт Беларусі, уключыўшы яе ў арбіту ваенных падзей, што адбываюцца на межах Расіі, і плаціць за расійскую нафту крывёю беларускіх сыноў. Вы па-здрадніцку хочаце спыніць працэсы аднаўлення незалежнай беларускай дзяржавы, адраджэння нацыянальнай свядомасці, культуры і мовы беларусаў, нашага імкнення да сапраўднай волі.

Спадары! Спыніце сваю антынародную марыянетачную прарасійскую палітыку! Ведайце: Беларусь не стане зноўку калоніяй Расіі! Ёсць каму бараніць яе, як родную маці.

Калі ж вы і далей будзеце ісці шляхам здрады, сучаснікі і нашчадкі, усе сумленныя людзі праклянуць вашы імёны!

Сябры суполкі БНФ "Адраджэнне" і прыхільнікі БНФ горада Масквы:

**Ігар ПАЎЛОЎСКІ, палкоўнік запасу; Генадзь ЛЕХ, кандыдат тэхнічных навук; Ніна КАЛЯДА, настаўніца; Алесь БУКА, студэнт; Ганна БУКА, студэнтка; Алесь КАЛЯДА, інжынер; Лявон ЦАГЕЛЬНІКАЎ, кандыдат тэхнічных навук; Уладзімір АКУЛІЧ-КАЗАРЫН, кандыдат тэхнічных навук; Мікола КАРАЛЁЎ, кандыдат тэхнічных навук; Святлана ДОЛБІК, хатняя гаспадыня; Уладзімір ШЛАПАК, студэнт; Васіль АСТАПОВІЧ, палкоўнік запасу; Людміла АРЛОВА, навуковы супрацоўнік; Віктар ІВАНОЎ, настаўнік; Мікола КАСЬЯНЧЫК, чыгуначнік; Віталь ВАЛЮЖЭНІЧ, прадпрымальнік; Андрусь ЖЫЛКІН, прадпрымальнік; Віктар КАЧЭРГІН, дацэнт, кандыдат тэхнічных навук; Зміцер САЛАНОВІЧ, прадпрымальнік.**

## Радкі з пісьмаў

*"Народная газета" надрукавала вынікі пайменнага галасавання аб уступленні Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі. Я вельмі вам удзячны за гэта. І зусім не разумею пазіцыю некаторых жанчын — дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Так, дэпутаткі Крышталевіч Ульяна, Самусевіч Раіса і Анісенка Таццяна галасавалі "за" — гэта значыць, што яны за далейшае развіццё ўзброеных сіл, за тое, што гэтыя расходы кладуцца на плечы працоўных, іх не турбуе. А яшчэ ж ваенна-прамысловы комплекс трэба трымаць на плячах, ды яшчэ і армію такую вялікую ўзвалім таксама на гэтыя плечы. У Паўднёвай Амерыцы ёсць такая краіна Коста-Рыка, дык яна зусім не мае арміі і яе ніхто дагэтуль не захапіў. А нашы ваенныя ўсё страшаць нас нейкай пагрозай, а самі ўсё больш цягнуць грошай з небагатага дзяржаўнага бюджэту...*

**З павагай Рыгор РАБЯНОК, інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**

*Пытанне рубам*

# Назад у саюз непарушны?

Гэтыя два дні, безумоўна, увойдуць у гісторыю Беларусі. Увойдуць як яе чорныя старонкі. Адбываецца унікальная з'ява ў гісторыі. Краіна, якая скінула з сябе імперскія саюзныя ланцугі і стала незалежнай, праз пару гадоў дабравольна хоча адмовіцца ад сваёй незалежнасці і просіцца назад у імперыю. Менавіта гэтага прагнуць тыя 188 дэпутатаў, якія, за магчымасць захаваць свае месцы, прыносяць у ахвяру суверэнітэт Беларусі. Гэта не перабольшанне, бо пасля эканамічнага і ваеннага саюзу застаецца толькі адзін крок да саюзу палітычнага. Урокі перадваеннай гісторыі прыбалтыйскіх рэспублік гэта пацвярджаюць. Праўда, для гэтых краін калектыўная бяспека была навязана з боку Савецкага Саюза пад пагрозай ваеннага ўмяшання. А вось хто пагражае нашаму ўраду і парламенту? Латвія? Літва? Украіна?

Гучаць па радыё знаёмыя галасы. Дэпутаты ад апазіцыі і яшчэ некалькі заклапочаных лёсам Беларусі парламентарыяў спрабуюць фактамі і лічбамі пераканаць астатніх у тым, што адбываецца сур'ёзнае парушэнне асноў незалежнасці нашай дзяржавы. Хіба можа яна быць адначасова нейтральнай і членам ваеннага саюзу? Чалавечы розум сцвярджае, што такое немагчыма. А вось саноўныя эксперты лічаць, што адно другому не пярэчыць. І ці маглі гэтыя дарадцы вынесці іншае рашэнне, чым тое, якое было неабходна ўраду? Гэта ж адна каманда, у якой ёсць і свой трэнер, і начальнік, і капітан, і, нарэшце, проста ігракі-пешкі.

Наменклатурная большасць парламента выглядае спакойнай. У яе руках знаходзіцца самая надзейная на гэты час зброя — кнопкі. За тры гады ад многіх з гэтых "кнопачных" дэпутатаў іх выбаршчыкі не пачулі ні слова. Але менавіта яны, "маўклівыя героі", плануюць наша жыццё. Рэферэндуму захацелі? Канстытуцыі? Дружны націск на кнопкі — і няма ў нас ні рэферэндуму, ні Канстытуцыі. Ім усё гэта не патрэбна, абыдземся і мы.

Гучаць па радыё знаёмыя галасы. Выступленні міністраў абароны і дзяржаўнай бяспекі можна не каменціраваць. Пра тое, што яны гаварылі, мы ўжо колькі дзён запар дзякуючы нашаму клапатліваму тэлебачанню чулі ад урадавых чыноўнікаў, дырэктараў буйных заводаў, ветэранаў. А вось ад выступлення міністра замежных спраў сп. Краўчанкі некаторыя свядомыя беларусы чакалі іншага. Каму ж, як не яму, дбаць пра ўзмацненне міжнароднага аўтарытэту незалежнай і нейтральнай Беларусі? Наіўныя, хіба ж можна было дзеля гэтага рызыкаваць сваім міністэрскім партфелем? Выступленне Краўчанкі яскрава паказала, што, як бы прыгожа чалавек ні размаўляў, у якую б нацыянальную вопратку ні апранаўся, яго наменклатурнае мінулае рана ці позна высветліцца. А вось выступае дэпутат Сарокін — той самы, хто зняважыў нашы нацыянальныя сімвалы. У любой па-сапраўднаму дэмакратычнай і прававой краіне ён бы па меншай меры пазбавіўся свайго парламенцкага мандата. Зрэшты, у такой краіне падобных дэпутатаў і не можа быць. Яны там могуць выступаць хіба што на старонках бульварных газетак. Дэпутат Лукашэнка вымаўляе гнеўныя філіпікі ў адрас Пазьняка. Гучаць нейкія недарэчныя абвінавачанні, і іх між іншым чуе не толькі Пазьняк, але і тысячы слухачоў. Дэпутат Скарынін нарэшце знаходзіць вінаватага ва ўсіх нашых бедах — гэта Старшыня Вярхоўнага Савета Шушкевіч. Дарэчы, Скарынін з'яўляецца саветнікам прэм'ер-міністра. На такую адказную пасаду выбіраюць звычайна найбольш адукаваных і разважлівых палітыкаў. Па-ранейшаму вельмі ўпэўненым у сабе выглядае дэпутат Булахаў. Пачулі мы і выступленні тых дэпутатаў, якія па-сапраўднаму клапоцяцца аб сваім народзе. Гэтыя два дні паказалі, што такіх людзей становіцца ўсё больш. І гэта трохі абнадзейвае.

Лёс Бацькаўшчыны залежыць не ад Вярхоўнага Савета, а ад нашага народа. Цяпер ён павінен сказаць сваё рашаючае слова. Няўжо знойдуцца такія бацькі, якія захочуць пасылаць сваіх сыноў праліваць кроў за інтарэсы іншых дзяржаў? Няўжо знойдуцца такія людзі, якія захочуць жыць не ў свабоднай рэспубліцы, а ў правінцыі суседняй дзяржавы? Ад адказаў на гэтыя пытанні будзе залежаць будучае Беларусі.

**Валерый ШАБЛЮК, кандыдат гістарычных, навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі.**

ПАЗІЦЫЯ

# Дык што ён думае, наш народ?

*Слова настаўнікаў*

## Мы падтрымліваем Вас, Станіслаў Станіслававіч

Большасцю жыхароў нашай рэспублікі з задавальненнем было ўспрынята рашэнне яе парламента аб суверэнітэце і асабліва нейтралітэце ў ваенных адносінах. Мы верылі ў светлы час, калі гэтае рашэнне будзе цалкам выканана. Але час мяняе людзей і асабліва парламенцкую большасць.

І сёння мы апынуліся перад страшэннай пагрозай, перад уцягненнем у ваенна-палітычны саюз.

Усе настаўнікі школы, тэхнічны персанал з надзеяй і хваляваннем сачылі за ходам абмеркавання не ўнесенага нават у парадак дня нечарговай сесіі пытання "Аб заключэнні дагавора аб калектыўнай бяспецы". І калі на табло з'явілася лічба 188 — "за", нашы надзеі абарваліся.

Да глыбіні душы кранулі нас вынікі галасавання, хоць, калі гаварыць шчыра, дык гэтага і павінны былі чакаць: Рэспубліка зноў уцягваецца ў далейшую гонку ўзбраенняў і далучаецца да агню вайны, які пашырае свае межы з кожным днём. Чаму група палітыкаў вырашае за ўвесь народ? Хто нам пагражае? Чаму нашы дзеці павінны будуць абараняць інтарэсы палітыкаў у "гарачых" кропках? Мабыць, тая парламенцкая большасць забылася, з якім болем і трывогаю выпраўлялі сваіх хлопцаў у войска простыя жыхары Беларусі, калі палаў пажар у Афганістане, а магчыма, ніхто з іх гэтага і не адчуў. Для яе "социалистический патриотизм" быў вышэй за жыццё людзей.

Мы верым сёння словам кіраўніка ўрада, які запэўніў беларускі народ у тым, што ні адзін беларускі хлопец не будзе накіраваны для праходжання службы ў войску за межы рэспублікі без згоды на тое парламента. Але яшчэ больш верым у тое, што сённяшні парламент, не задумваючыся аб выніках, гэтую згоду дасць па першаму патрабаванню Кебіча. Мы, працоўны калектыў Жарабковіцкай сярэдняй школы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, горача падтрымліваем Вас, паважаны Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, і Вашу пазіцыю ў адносінах да вырашэння пытання аб калектыўнай бяспецы, завяраем Вас, што зробім усё магчымае, каб прапанаваны Вамі рэферэндум у рэспубліцы быў праведзены і каб вынікі яго былі станоўчымі. Да гэтага мы заклікаем усё настаўніцтва, усю інтэлігенцыю Беларусі, каму неабыякавы лёс беларускіх дзяцей — нашай будучыні, — падтрымаць нас. Успомніце свае агітатарскія абавязкі, растлумачце кожнай бабулі сэнс пастановы, прынятай Вярхоўным Саветам.

Мы верым у тое, што розум пераможа. І вынікі рэферэндуму адвядуць рэспубліку ад кашмару вайны.

**ШКЛЯННІК, ШЫБУН, ЖУК, КУДЗІНА (усяго 28 подпісаў).**

*Ляхавіцкі раён.*

### Радкі з пісьмаў

*Шаноўнае спадарства!*

*Пішу з нагоды ляманту аб калектыўнай бяспецы.*

*Прапаную: міратворчыя сілы фарміраваць з дзяцей, зяцёў, унукаў, праўнукаў, наогул з родных і блізкіх тых дэпутатаў, якія прагаласавалі "за", а таксама з родных і блізкіх сп. Кебіча, міністраў, старшынь Саветаў, дырэктараў ВПК.*

*І прапаную гэта запісаць другім пунктам у пастанову аб калектыўнай бяспецы, каб усё гэта мела падставу закона.*

**А.ХЛАНЬ.**

*г.Мінск.*

*Я так лічу!*

## Каб ведаць думку народа, трэба яго спытаць

Паважаная рэдакцыя!

Пішу вам, прачытаўшы ў вашай газеце адказ В.Кебіча З. Пазьняку — "Не трэба галаслоўных абвінавачванняў".

Мяне вельмі здзіўляе, што спадар Кебіч піша, што па праблеме калектыўнай бяспекі яго пазіцыя "падтрымліваецца абсалютнай большасцю беларускага народа"...

У мяне пытанне: на якой падставе спадар Кебіч мае права так казаць? Мне здаецца, каб ведаць думку народа, трэба было б яго спытаць, напрыклад, правесці рэферэндум. Я ведаю другую "большасць народа". Тыя людзі, якія жывуць і працуюць побач са мной, якраз супраць усялякіх ваенных саюзаў!

Мне асабіста робіцца страшна ад такіх дзеянняў нашых палітыкаў. І я малю Бога, каб ён выратаваў пакутную Беларусь і даў розум тым, хто мае ўладу.

Пішу вам таму, што хачу, каб хоць дзе быў пачуты і мой голас — я супраць уступлення Беларусі ў любы ваенны саюз!

**Неля Мікалаеўна АСІПОВІЧ, інжынер праектнага інстытута, 39 гадоў, маю дзетак.**

*г. Мінск.*

*Верховному Совету Республики Беларусь*

*Редакции "Народной газеты"*

## Не распоряжайтесь, судьбами наших детей

Мы, рабочие Новобелицкой птицефабрики, заявляем решительный протест против выступления В.Кебича по проблеме коллективной безопасности. В своем выступлении премьер-министр говорит, что большинство белорусского народа его поддерживает. По какому праву он за нас решает, распоряжается жизнями наших детей!? Вячеслав Францевич, разве был референдум по этому вопросу?

Так вот мы — народ — высказываем своё решительное "нет"! Мы против военного союза с Россией. Мы — нейтральное государство! И мы за то, чтобы наши дети служили в своем Отечестве — в Беларуси!

**БАНЬКОВСКАЯ, ГОЛЬШЕВСКАЯ, ЛОСЕВ (всего 58 подписей).**

*г. Гомель.*

### Радкі з пісьмаў

Станислав Станиславович! Интеллигенция, умеющая думать не только животом, но и головой, — с Вами!

**Юрий КЛИНЦОВ,**

*г.Гомель.*

*Задумайтесь!*

## Кто и что нам угрожает?

Не знаю, может быть, и придется когда-либо скрестить шпаги за независимость Беларуси, но только не в ближайшие 15—20 лет.

О какой безопасности сегодня можно говорить, если наш люд бросился искать спасения там, за границей, а отнюдь не в ближайшем зарубежье. И, не дай Бог, случилось бы, что на нашу Беларусь напали "интервенты", более чем уверен, она была бы сдана, даже при договоре о коллективной безопасности, быстрее, чем в 1941 году. И тут уж никакие оговорки к этому договору не то что неуместны, а просто смешны. И не пал бы смертью храбрых сынок, внук, племянник или прочий там родственничек радетелей за коллективную безопасность, пал бы сын крестьянина и рабочего.

Ведь посмотрите, чьи дети погибли в Афганистане. Сынков секретарей ЦК КПБ, обкомов, райкомов, которые определяли нашу политику, и прочих сынков номенклатурщиков и заправил там нет. Это воины-сыновья механизаторов и доярок, каменщиков и станочников понимали приказ так, как он звучал, сынки же вышеназванной прослойки предприняли различные тактические ходы еще до оглашения подобного приказа. И сейчас случись какое-нибудь нападение на нашу Беларусь, эти же сынки первыми сбегут с линии фронта, у них другие интересы, даже иной патриотизм.

Так что не в силах армии безопасность республики. Скорее в мощи экономики и уровне жизни. Ведь что защищать сегодня белорусу при такой безудержно развившейся инфляции и дестабилизации экономики? Голодную жизнь и нищенское прозябание? Да скорее белорус сам поднимет руки и побежит туда, где есть хлеб, жилье, порядок, демократия и возможность жить и совершенствоваться. И не надо нашим поработителям даже стрелковое оружие: придут с вещмешками, консервами да тряпками, шоколадом и вином и без единой команды "К бою!" заставят значительную часть белорусов поднять руки вверх, выпрашивая подачку.

Швеция проводит маневры: как принять беженцев из бывшего СССР, Польша готова бесплатно предоставить все виды транспорта для переброски таких же беженцев в другие страны, ибо у самой не "медом мазано", другие государства не снимают с повестки дня вопрос о гуманитарной помощи бывшим социалистическим республикам, а у нас, судя по развернувшейся дискуссии, самый злободневный вопрос — входить или не входить в систему коллективной безопасности. Перекос тут явный! Не туда сориентированы умы наших парламентариев. Голод, разруха нам угрожают да шаманство политиков, среди которых были и Наполеон, и Ленин, и Сталин, и Гитлер, и т.д.

И очень уж обидно за председателя Комиссии по вопросам безопасности и борьбы с преступностью, который усмотрел невыполнение решения Верховного Совета Республики Беларусь именно в этом вопросе. Может, он не знает, тогда пусть приедет к нам в Ивацевичи, и мы на примерах покажем ему массовое невыполнение законов и решений Верховного Совета, а там, где они и выполняются, то почему-то однобоко, с учетом лишь интересов власть имущих. А кто так выполняет? В том-то и дело, что все те же радетели за коллективную **безопасность.**

**Иван ДРУГАНОВ.**

*Ивацевичский район.*

*Письмо с комментарием*

## Булахов или Позняк?

За кого, а точнее, за чью идею, отдать голос на будущем референдуме, если, конечно, он состоится? Большие политики не пришли к согласию, а как же быть нам, простым смертным, далеким от глубокого анализа государственного устройства общества? Последние баталии в парламенте Республики Беларусь оставили нас, избирателей, в растерянности и раздумье. Поразмыслив, взвесив все "за" и "против", которые видны простым глазом, я пришел к выводу — придется голосовать за присоединение Беларуси к договору о коллективной безопасности. И вот почему.

Мы, живущие на Земле, искусственно отгородившись заборами друг от друга, очень много теряем во всех сферах человеческой деятельности от непомерных на то расходов. Мне очень импонировали речи депутата Позняка по данному вопросу. Но реалии таковы, что приходится не терять голову, здравый смысл. Окончательно порвав с Россией, как агитирует уважаемый Зенон Позняк, оказавшись на нашем малообитаемом белорусском острове, как нам жить дальше? Должны же мы кое-чему научиться на ошибках Литвы. Остаться без энергоресурсов — это значит обречь свой народ на холодное и голодное самовымирание. Никакие буржуйки в городских квартирах нас не спасут. А что такое случится, если полезем в пузырь, можно не сомневаться. Возгласы депутатов от оппозиции о том, что Россия обязана нам поставлять нефть и многое другое, ни к чему не обязывают. ООН нам не поможет. ООН далеко — Россия рядом. А потом, старый друг лучше новых двух. Народную мудрость не надо забывать.

Уверен, найдется на Украине очередной Богдан Хмельницкий и она с поклоном пойдет к России. Пока белорусские Вискули ни одному народу ничего хорошего не дали. Горбачева можно было отстранить от власти и с меньшими потерями. Заключив договор, не надо бояться, дескать, Россия проглотит нас с потрохами, закабалит на веки вечные своей милитаризацией. Конечно, это глупо так думать. Россия за 7 лет перестройки очень изменилась, изменился весь мир. Ей и всему человечеству нужно не вооружение, а разоружение. Процесс в этом направлении пошел. Не видеть его могут только глухие и слепые. В конце концов наиграются в войну на Кавказе и в других точках земного шара. Быть независимым и свободным, но больным и голодным — не великое счастье для любого народа. Нелегко сознавать тот факт, что твои родственники и друзья по воле недалеких политиков вдруг оказались за только что возведенным кордоном. Такой рай мне лично отвратителен и должен быть неприемлем для каждого свободолюбивого индивидуума. Мне претит любой национализм. Любовь к человеку, понимание его, оказание ему помощи, т.е. выполнение или соблюдение 10 заповедей Евангелия — вот тот идол, к которому мы должны стремиться и на который мы должны молиться, а не язык, на котором разговаривает человек и который бэнээфовцы считают первоосновой бытия.

Уважаемый Зенон Позняк! Уважаю Вас за то, что Вы разбудили белорусов, не даете спать ни Верховному Совету, ни правительству. Вы — белорусский колокол. Но, как видите, в данном вопросе не поддерживаю Вашу точку зрения.

**Иван Яковлевич ЛЕСИН,**

*г.Минск.*

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

**Уважая точку зрения И.Я.Лесина, нельзя не заметить, что многие его мысли носят абсолютно надуманный характер. "Народная газета" не однажды предоставляла слово З.С.Позняку. Но, давайте прямо скажем, ни в одной публикации он не призывал к "окончательному разрыву с Россией". Он, как известно, — за равноправные отношения как со всеми соседними государствами, так и более отдаленными. Главный смысл концепции З.С.Позняка совсем в другом — Беларусь должна быть независимым государством, со своей нейтральной политикой, со своей культурой, со своим укладом жизни. И не о каком "малообитаемом белорусском острове" речь не идет, ни о каком "обречении народа на холодное и голодное самовымирание" и думать нельзя. Кстати, никогда оппозиция не заявляла о том, что "Россия обязана нам поставлять нефть". В современном мире, как говорят, за красивые глаза никто никому не обязан ничего делать. Все взаимоотношения должны строиться на взаимовыгодных началах.**

**По меньшей мере странными выглядят и размышления И.Я.Лесина насчет того, что "белорусские Вискули ни одному народу ничего хорошего не дали". Сколько раз уже отмечалось, что не в Вискулях развалили Советский Союз, что это было предрешено всем ходом истории, что Вискули, наоборот, смягчили этот неминуемый распад. Империя есть империя, и рано или поздно, но у нее один конец — крушение. Об этом свидетельствует история многих империй, и от этого никуда не уйдешь.**

**С чем нужно согласиться, так это с тем, что в основе любой политики должен быть человек. Политика имперского государства основывалась, заметим, на иных ценностях, политика суверенной Беларуси должна базироваться именно на этой гуманистической концепции.**

## ... А мы поддерживаем позицию правительства и Верховного Совета Республики Беларусь

4 июня 1993 г. в "Народной газете" опубликована статья "Мы, ветераны Великой Отечественной войны, поддерживаем Шушкевича", выступившего против подписания договора о коллективной безопасности.

Разумеется, 14 ветеранов, подписавших указанное письмо, вольны в оценке и подходе к столь важной и сложной политической проблеме. Но их взгляды по затронутому вопросу, нам кажется, не отражают мнения ветеранской общественности г.Минска. На проводимых собраниях, на встречах с народными депутатами Республики Беларусь М.Д.Жуковским, Л.П.Приваловым, А.Н.Новиковым, В.И.Синчилиным участники войны, партизанского движения и подполья единодушно высказались за поддержку договора о коллективной безопасности стран СНГ.

Жизненный опыт, извлеченный из итогов и уроков Великой Отечественной войны с гитлеровской Германией и послевоенного периода, настойчиво требует от нас укрепления не только дружественных связей между народами бывшего Советского Союза как в экономике, так и в политике, но и укрепления коллективной безопасности. Именно за это высказалось более 80 процентов белорусского народа на проведенном референдуме в марте 1991 года.

Естественно и то, что коллективная безопасность на современном этапе будет способствовать активному взаимодействию и прогрессу в развитии экономики и обеспечении мира Республики Беларусь.

**А.А.АНТОНОВ, Герой Советского Союза.**
**А.И.БАРДАНОВ, Герой Советского Союза.**
**В.С. МИЧУРИН, Герой Советского Союза.**
**Б.С.ГУДИМОВ, доктор медицинских наук, председатель медицинской комиссии Республиканского совета ветеранов, участник войны.**
**И.Н.АНАНИЧ, зам. председателя Минского областного совета ветеранов, ветеран войны и другие — всего 18 подписей.**

## У нас адзін спадарожнік — Расія!

Вельмі многа цяпер пішуць, гавораць пра самастойнасць, незалежнасць Беларусі. Хто супраць? Гэта вельмі правільна і добра. Кажуць: падпішаце калектыўны дагавор — страціце ўсё. Але ўсё, мне здаецца, не зусім так. Каб упэўніцца ў гэтым, пастараемся падумаць і адказаць на наступныя пытанні:

— А ці выжывем мы "самастойна", ізалявана?

— А ці абаронімся мы самі, калі з'явіцца новая навала, якіх было шмат і цяпер ёсць пагроза?

— А ці зможам мы выжыць і паспяхова развіваць навуку, тэхніку, прагрэс без эканамічнай дапамогі?

Відавочна, што ўсе гэтыя пытанні і многія іншыя нельга вырашаць ізалявана, "самастойна". Вось чаму тыя, хто сёння адназначна крычыць "За незалежнасць!", або падманваюць беларусаў, стараючыся іх павясці па іншаму шляху, або добрасумленна памыляюцца.

Заглянем у гісторыю. Каля 200 гадоў мы ўз'яднаны з Расіяй. Прыйшлося пераважыць многа цяжкіх войнаў разам з ёй, былі цяжкія палітычныя канфлікты, асабліва з нацыяналістамі Беларусі. Гэта так. Куды паганей жылося беларусам у часы панавання польскіх магнатаў. Гэта быў крывавы шлях, акаталічванне.

А ў гады савецкай улады была і сталіншчына, і цудоўныя перамогі. Толькі сляпы або нядобры чалавек іх не заўважыў. Беларусь за савецкі час ліквідавала непісьменнасць, пабудавала прамысловасць, роўную Расіі, стварыла буйную калгасную сельскую гаспадарку, пабудавала новыя вёскі з тэлевізарамі, рознай тэхнікай, многа добрых дарог. Мы не жылі ў голадзе і холадзе, марылі пра аўтамабілі, а многія іх набылі, мелі бясплатнае навучанне, медыцыну, уздым культуры ўсяго народа, забеспячэнне ў старасці і г.д. Каб параўнаць жыццё, спытайце ў любой вёсцы Брэсцкай і Гродзенскай вобласці, як яны жылі да 1939 года, якія ў іх хаты былі, як яны апраналіся, якую тэхніку мелі, аб чым марылі. Зразумела, мы яшчэ не дасягнулі таго, чаго хацелі, чаго заслужылі. Прычын тут многа: і тое, што з калгасаў часта забіралі прадукты па заніжаных цэнах, і арганізацыя працы жадала лепшага, і адносіны да яе не ва ўсіх былі сумленнымі. Але галоўнае ў тым, што ні аднаго дня не было, каб не пагражалі новай вайной. Вінаваты тыя, хто падрыхтаваў і выканаў генацыд беларускага народа, хто пакінуў крывавую памяць тысяч Хатыней. Гэтых бандытаў выкармілі тыя, хто сёння, ператварыўшы нас у старцаў, пагардліва "дапамагае" нам, хто трымаў нас у пастаяннай пагрозе новай вайны, вымушаючы аддаваць апошняе на абарону. А цяпер смяюцца з нас, маўляў, перамаглі без вайны.

Калі разабрацца, дык кожны зразумее, што гарбачоўская "перабудова", развал СССР, эканомікі, палітыкі, культуры прынеслі нам шкоды больш, чым Сталін. Цяпер стараюцца разваліць калгасы, не стварыўшы фермераў, прамысловасці, пасеяць рэлігійнае супрацьстаянне — усяк прынізіць годнасць беларуса.

Для чаго гэта ўсё робіцца?

Каб давесці беларуса да бездапаможнасці, да рабскага становішча душы, а ў выніку зрабіць яго краіну прыдаткам, калоніяй, дзе будуць гаспадарыць "паны", "спадары", "господа".

Праўда, ёсць у нас малая частка добрасумленных беларусаў, якія мараць мець сваю зямлю, сваю ферму, свой магазін і г.д. Трэба іх жаданне задаволіць, але не мафіёзным шляхам, не фальшывымі кааператывамі, не на аснове падману і эксплуатацыі беларуса, а на законнай аснове і пад строгім кантролем дзяржавы. Нельга дапускаць і куплю-продаж зямлі, заводаў, фабрык. Акцыянернасць — так. Не па польскаму шляху трэба ісці, а па кітайскаму, а найлепш — па свайму, беларускаму.

Дык з кім жа нам пайсці?

Наша гісторыя, культура, мова, эканоміка, узаемаразуменне, гандлёвыя адносіны, славянскае паходжанне, сумесная барацьба паказваюць, што у нас адзін спадарожнік — Расія.

І ніякіх абмежаванняў. За поўны палітычны, эканамічны, ваенны, ідэалагічны саюз пры росквіце нацыянальнай культуры і быту. "Самастойнай" і ізаляванай не можа быць ні адна краіна свету, ні малая, ні вялікая. Яна павінна ўваходзіць у нейкую групоўку. Наш выбар — Расія, пры надзвычай добрых адносінах з краінамі бліжняга і дальняга замежжа, з усімі краінамі свету на аснове раўнапраўя і добраахвотнасці не толькі на паперы, але і ў сапраўднасці.

**Аляксандр Іванавіч КАМЯК, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ветэран працы, інвалід.**

**P.S.: Калі ў рэдакцыі прачыталі гэты ліст, адразу падумалі: ці ёсць у Беларусі хаця б адзін чалавек, які выступаў бы за ізаляванасць рэспублікі? Упэўнены, няма. Дык пра што Вы гаворыце, Аляксандр Іванавіч? Ці не блытаеце Вы нармальны суверэнітэт рэспублікі з адгароджанасцю яе ад сусветнай цывілізацыі?**

**Аўтар заглядвае ў 200-гадовую гісторыю Беларусі. Але ж карані беларусаў звязаны не толькі з гэтым гістарычным адрэзкам. Наша Бацькаўшчына развівалася і да прымусовага ўз'яднання з Расіяй. І нам трэба ўзнаўляць слаўныя старонкі гісторыі роднага краю.**

**Можна паспрачацца і з іншымі меркаваннямі аўтара. Але рэдакцыя іх змяшчае, паважаючы думку кожнага.**

*Мнение депутата*

## Кому нужен военный союз...

В октябре 1990 года ЦК КПБ и правительство БССР предложили "Основные положения перехода Белорусской ССР к рыночной экономике". Предусматривалось три этапа перехода к рынку и конец третьего этапа был намечен на IV квартал 1992 года. Одним из важнейших законов при переходе к рынку должен был стать закон о земле, который обсуждался на II сессии ВС БССР в 1990 году. Цель закона — демонополизация сельского хозяйства, предоставление сельским труженикам возможности стать хозяевами своего труда и насытить рынок сельхозпродукцией, а в конечном счете снизить потребительские цены. Надо отметить, что кроме правительственного проекта этого закона был предложен и проект оппозиции. За правительственный проект проголосовало 183 депутата, а за проект оппозиции — всего 76. Таким образом, Верховный Совет БССР дал зеленый свет деятельности правительства и отбросил в сторону реформы, предложенные оппозицией. Ни один представитель оппозиции не был включен в состав правительства. Газеты опубликовали доклад председателя СМ БССР Кебича, который заканчивался словами: "Урад глыбока перакананы, што пераход да рынку можна ажыццявіць толькі пры стабілізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы". Надо отдать должное белорусам и их "памяркоўнасці" — на сегодня нет более спокойной республики, чем Беларусь. Даже возрождение КПБ—КПСС белорусы встретили равнодушно, без каких-либо эмоций. Также спокойно относится народ и к заявлениям оппозиции, публикуемым в газетах. Очевидно, что общественная стабильность, о которой так мечтал товарищ Кебич, осуществилась полностью, но осуществился ли переход к рынку? Ведь конечной целью перехода к рынку было объявлено: повышение хозяйственной активности, уровня использования трудовых, материальных и финансовых ресурсов и достижение сбалансированности народного хозяйства. Эти задачи не выполнены. Кроме того, резко возросла преступность, и народ доведен до отчаянного положения. При таких результатах цивилизованное правительство уходит в отставку, уступая место другим людям с новой программой. Правительство Кебича, получившее благословение ЦК КПБ, декларируя переход к рынку, на деле, мне кажется, имеет совсем другие цели. Главная из них — восстановление полновластия КПБ и КПСС. Интересы народа Беларуси коммунисты всегда приносили в жертву большевизму. Так было в 1918 году, когда Беларусь стала разменной монетой в торге между германским империализмом и московским империокоммунизмом. Вершиной большевистского макиавеллизма и предательства интересов народов мира стал пакт 1939 года, заключенный с фашистами. Этот пакт дал надежду большевикам на сотрудничество с фашизмом по уничтожению мировой демократии, а за это они развязали руки фашизму и фактически санкционировали начало самой кровопролитной и разрушительной войны. Западные земли Украины и Белоруссии, а также территория Прибалтики были первыми кусками, которые большевики получили в награду от фашистов. Тем самым большевизм обнажил свое истинное лицо, показав, что заботы о нуждах народов есть ложь и лицемерие. И сегодняшние "заботы" о народе лицемеров от большевизма в парламенте и правительстве Республики Беларусь грозят народу новыми бедствиями и лишениями. Вместо укрепления суверенитета Беларуси, денежно-финансового регулирования экономики и социальной защиты населения правительство Кебича всем нутром умоляюще повернулось к Москве, где снова запахло коммунизмом. За спиной народа это правительство и Верховный Совет Республики Беларусь готовятся накинуть на шею народа хомут военного договора якобы для защиты республики от внешних врагов. На самом деле вожжи к этому хомуту будут протянуты опять же из Москвы. Всякому, кто хоть когда-либо брал в руки учебник истории, хорошо известно, что Москва никогда не защищала Беларусь и ее народ, как, впрочем, и другие народы окраин России. Эти народы служили в мирное время источниками дани и поборов, а в военное время — буферной зоной, где происходили самые жестокие и опустошительные сражения. Карл XII в 1709 году шел к Полтаве через Беларусь, в 1812 году Наполеон шел через Беларусь на Смоленск и Москву. То же было и в 1914 и 1941 годах. Белорусам доставались лишь разрушенные жилища, смерть близких, послевоенная разруха и голод. Очевидно, что политик, которого действительно волнует судьба народа Беларуси, должен последовательно отстаивать суверенитет Республики Беларусь и подлинный нейтралитет государства. Такая политика наиболее соответствует геополитическому положению Беларуси и интересам ее народа. Большевистское же правительство Республики Беларусь делает вид, что не понимает этого. Дымовой завесой опять же служит тяжелое экономическое положение республики. Нас пытаются убедить, что тесное сближение со "старшим братом" нам нужно для поднятия экономики. Надо понимать так, что "старший брат" даст подачки в виде топлива, металла и т.д. Хотя всякому , даже начинающему политику, давно понятно, что время подачек откуда бы то ни было кончилось и пора переходить к трезвой, рациональной политике и экономике. Причем по опыту Японии, Тайваня, Сингапура видно, что прогресс наблюдается в тех странах, где главными ценностями считаются не сырье и ресурсы, а деловые и нравственные качества людей и создаются все условия для их проявления, развития и использования. А это невозможно без соблюдения прав человека, без свободы печати и других средств информации, без соответствующей Конституции и избирательного закона. Ничего этого у нас нет и не будет, пока у власти большевики и их помощники.

**Анатолий ЖЕРДЯЕВ, народный депутат горсовета г. Гомеля.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб аднясенні на ўнутраны дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь часткі ўнутранага доўгу былога СССР перад насельніцтвам, запазычанасці ўрада рэспублікі перад Аграпрамбанкам і іншых сум

Грунтуючыся на пагадненнях Рэспублікі Беларусь з дзяржавамі — удзельніцамі СНД па пытаннях правапераемнасці і раздзялення ўнутранага дзяржаўнага доўгу былога СССР перад насельніцтвам, расходаў па індэксацыі ўкладаў, расходаў па выкупу абліґацый, непагашанай запазычанасці ўрада рэспублікі Аграпрамбанку па розніцах у цэнах і надбаўках на сельскагаспадарчую прадукцыю і іншых, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Аднесці на ўнутраны дзяржаўны доўг рэспублікі:

запазычанасць былога СССР перад насельніцтвам па сумах адцягненых яго ўкладаў зыходзячы з рэштказ укладаў ва ўстановах Ашчаднага банка на 1 студзеня 1991 года ў памеры 16,4 млрд. рублёў, расходаў на кампенсацыю ўкладаў па стану на 1 сакавіка 1991 года (40 працэнтаў) — 7,0 млрд. рублёў, расходаў на індэксацыю ўкладаў на 1 студзеня 1992 года шляхам карэкціроўкі сум на індэкс спажывецкіх цэн, вылічаны да красавіка 1991 года (119,3 працэнта), — 4,3 млрд. рублёў;

запазычанасць былога СССР па фактычна адабраных сродках рэзерву ўзносаў па страхаванню жыцця на 1 студзеня 1991 года з улікам кампенсацыі на ўзносы грамадзян па страхаванню жыцця на 1 сакавіка 1991 года ў памеры 1,3 млрд. рублёў;

непагашаную запазычанасць урада рэспублікі Аграпрамбанку па розніцах у цэнах і дыферэнцыраваных надбаўках на сельскагаспадарчую прадукцыю з улікам налічаных працэнтаў па ёй у памеры 3,8 млрд. рублёў;

затраты на выкуп у насельніцтва рэспублікі абліґацый Дзяржаўнай мэтавай беспрацэнтнай пазыкі СССР 1990 года ў суме 0,8 млрд. рублёў;

затраты на выкуп у насельніцтва рэспублікі абліґацый Дзяржаўнай унутранай выйгрышнай пазыкі 1982 года і дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў СССР, якія ажыццяўляюцца на ўмовах, прадугледжаных пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 мая 1993 года N 279, у суме 0,85 млрд. рублёў;

запазычанасць урада, абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў перад Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь па крэдытах, атрыманых пад дэфіцыт рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў у 1992 годзе ў суме 21,0 млрд. рублёў (з улікам 3,1 млрд. рублёў, атрыманых для заканчэння будаўніцтва асобных аб'ектаў, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай па пераадоленню вынікаў у Рэспубліцы Беларусь катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на 1990—1995 гады);

запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі па атрыманых імі пад гарантыі былых саюзных міністэрстваў і ведамстваў доўгатэрміновых крэдытах і расходы па кампенсацыі страт ад канверсіі ў агульнай суме 3,077 млрд. рублёў.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь вызначыць парадак аднясення на ўнутраны дзяржаўны доўг расходаў па кампенсацыі страт ад канверсіі і запазычанасці па доўгатэрміновых крэдытах, атрыманых прадпрыемствамі і арганізацыямі рэспублікі пад гарантыі былых саюзных міністэрстваў і ведамстваў;

пры ўдакладненні бюджэту рэспублікі на 1993 год прадугледзець неабходныя сродкі для абслугоўвання ўнутранага дзяржаўнага доўгу.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

27 мая 1993 г.
г.Мінск.
№ 2327-XII

# ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

## *Пульс дня*

### Манат — адзіны плацежны сродак

**Указам прэзідэнта Азербайджана Абульфаза Эльчыбея, нацыянальная валюта — манат — аб'яўлена з сённяшняга дня адзіным плацежным сродкам на тэрыторыі гэтай Закаўказскай рэспублікі.**

Гэта рашэнне, як паведамляецца ў дакуменце, прынята ў мэтах аздараўлення эканомікі, забеспячэння сацыяльнай абароны насельніцтва. Асабліва падкрэслена, што абмен расійскіх рублёў, якія знаходзяцца цяпер у абароце, будзе рабіцца без абмежаванняў на працягу 7 дзён у суадносінах 10 рублёў да 1 маната.

### Забіта 20 чалавек

**Па меншай меры 20 чалавек было забіта, 50 атрымалі раненні пасля таго, як пакістанскія ваеннаслужачыя з саставу раскватараваных у Самалі сіл ААН без папярэджання адкрылі агонь па натоўпу маніфестантаў, якія сабраліся ў цэнтры сталіцы.**

У ліку загінуўшых тры жанчыны і двое дзяцей.

### Смяротны прыгавор прыведзены ў выкананне

**У егіпецкім горадзе Александрыя пакараны баявік мусульманскай фундаменталісцкай групоўкі, прыгавораны судом да вышэйшай меры пакарання ў снежні мінулага года за дзейнасць па звяржэнню ўрада краіны.**

Шэрыф Хасан Ахмед стаў першым пакараным злачынцам з красавіка 1982 года, калі смяротны прыгавор быў прыведзены ў выкананне ў адносінах пяці экстрэмістаў, якія забілі прэзідэнта Анвара Садата.

### Прэм'ер Турцыі — жанчына

**На надзвычайным з'ездзе Партыі вернага шляху, які адбыўся ў Турцыі, яе генеральным старшынёй выбрана Тансу Чылер.**

Аўтаматычна яна становіцца прэм'ер-міністрам. Упершыню ў гісторыі краіны ўрад узначальвае жанчына.

### У Польшчы — новая сістэма штрафаў

**З учарашняга дня ў Польшчы ўступіла ў дзеянне новая сістэма штрафаў вадзіцеляў за парушэнне правілаў дарожнага руху.**

Прынцыповае новаўвядзенне заключаецца ў тым, что ў дзеючы звод правілаў уключана шкала балаў, якімі ацэньваецца любое з аўтатранспартных здарэнняў.

Найбольшая колькасць штрафных балаў прадугледжваецца за ваджэнне транспарту ў нецвярозым стане, неаказанне дапамогі ахвярам аўтаздарэнняў і адмова прапусціць пешаходаў на абазначаных дарожнай адзнакай пераходах. За гэтыя парушэнні ў дасье вадзіцеля ўносіцца па 10 балаў.

Калі за год парушальнік набірае больш як 20 балаў, то ён пазбаўляецца вадзіцельскага пасведчання.

### *Сёння*

**Вашынгтон.**

Плануецца аднаўленне араба-ізраільскіх перагавораў аб мірным урэгуляванні на Блізкім Усходзе.

**Пекін**

У Харбіне адкрываецца міжнародны гандлёвы кірмаш. На яго з'едуцца больш як 5 тысяч бізнесменаў, уключаючы прадпрымальнікаў з краін СНД.

### *Заўтра*

**Жэнева**

Адкрываецца сесія Савета прадстаўнікоў генеральнага пагаднення аб тарыфах і гандлі (ГАТТ), на якой будзе разгледжана афіцыйная заява Расіі на далучэнне да гэтай міжнароднай арганізацыі.

**Бон**

Канцлер ФРГ Г.Коль выступіць у бундэстагу з урадавай заявай, прысвечанай небяспецы нацыяналізму і расізму.

### *Паслязаўтра*

**Бухарэст**

У курортным мястэчку Касцінешць адкрываецца міжнародны семінар журналістаў "Прэса — грамадства — улада".

## *У аб'ектыве — Румынія*

### Румыны п'юць "Кока-колу" і кантралююць выконванне санкцый супраць Югаславіі




❑ *Выканаўчы дырэктар кампаніі "Кока-кола" Раберта К. Гайзуэта выступае на цырымоніі ў Бухарэсце, прысвечанай выпуску ў краіне 10-мільённай бутэлькі гэтага напітку.*



❑ *Амерыканскі карабель "Стэла Лайкс" даставіў у румынскі порт Канстанца 6 высокаскарасных патрульных катэраў. Тры судны прызначаны для Румыніі і тры — для Балгарыі. Мэта пастаўкі — узмацненне кантролю на Дунаі за выконваннем санкцый ААН супраць Югаславіі. Катэры прадастаўлены Злучанымі Штатамі Амерыкі.*

**Фота Рампрэс — Белінфарм.**

## *Московские новости*

### Хасбулатов возродит народный контроль

Похоже, манией "народного" тотального контроля заболели российские нардепы. По инициативе Руслана Хасбулатова срочно форсируется законодательство о государственном контроле при Советах за деятельностью президентских структур.

В основу будущего акта положен закон брежневских времен о народном контроле, польза от деятельности которого всем нам известна. Выступая недавно на собрании российских депутатов разных уровней, спикер парламента ясно дал понять, кому принадлежит идея возрождения бывшей бумаготворческой госконторы: "В Верховном Совете, на местах недостаточно внимания уделяется контрольной деятельности за исполнительной властью... Как можно скорее следует принять закон о государственной системе контроля".

### Лужков против Горбачева

В Москве стали "модными" исковые судебные заявления высокопоставленных чиновников.

Один из таких исков поступил в Октябрьский районный суд столицы от мэра Юрия Лужкова. Он обвинил М.С.Горбачева в злонамеренном искажении правды, сославшись на его интервью по столичному телевидению. Лужков считает, что поступок экс-президента "ущемляет честь и достоинство городской администрации".

**Леонид ФАДЕЕВ.**

*Отчего ты такая богатая, Америка?*

# 1. Как заставили власти служить народу, а не себе

**Приближаются два события, неожиданно поставленные в один ряд. 4 июля — День Независимости США. Чуть позже — визит Председателя Верховного Совета Беларуси Станислава Шушкевича в эту страну, первый приезд за океан самой высокой делегации государства с гордым и чистым именем Беларусь.**

**Это дает нам повод основательно и честно поговорить об Америке.**

**О ней написано много. Сообщения о тех или иных событиях в Штатах постоянно идут по телевидению и в газетах. Но мы пока так и не получили ответа на главные вопросы: "Почему они так хорошо живут? Отчего же она такая богатая, эта Америка?"**

**И в чем причины нашей плохой жизни? Почему, несмотря на перестройку, движение к рынку, постоянные заверения правительства, дела идут далеко не лучшим образом?**

**Думаю, эти вопросы волнуют многих наших граждан. Американцев они тревожили двести лет назад. В те далекие годы они так же, как и мы теперь, были недовольны жизнью. У них тогда лилась кровь в борьбе за независимость, экономика была в упадке, жизнь становилась невыносимой...**

**Так дальше жить нельзя, решили американцы. Конгресс предложил всем штатам направить делегатов на конвент в Филадельфию, чтобы выработать и заложить основы новой жизни. Четыре месяца шло собрание, велись дискуссии, в ходе которых родилась Конституция и был заложен фундамент системы управления страной. Той системы, которая и привела народ к богатству и справедливости.**

**Что же это за система? Ее никто в секрете не держит. Более того, многие народы переняли американский опыт и достигли впечатляющих успехов. Только у нас, судя по выступлениям и действиям ряда депутатов, членов правительства, многие из них вроде бы и не слышали о той дороге к процветанию. Может, поэтому и продолжают делать совсем противоположное.**

**Сегодня, приближаясь к Дню Независимости США и скорому визиту высокой делегации нашей страны за океан, "Народная газета" начинает печатать серию материалов о принципах организации власти в Соединенных Штатах и их путях к изобилию. Думаю, они помогут нашим читателям найти ответ на главный вопрос:" Почему мы топчемся на месте или катимся назад, а они уверенно идут вперед?"**

**Статьи подготовлены на основе материалов Информационного агентства США, переданных в редакцию посольством Соединенных Штатов Америки в Беларуси.**

Соединенные Штаты Америки — демократическое государство. Но что подразумевают американцы под словом "демократия"?

Авраам Линкольн, один из самых любимых и уважаемых американских президентов, охарактеризовал правительство США как "правление народа, осуществляемое народом в интересах народа" и называл Соединенные Штаты "страной, зачатой в свободе и приверженной убеждению в том, что все люди созданы равными". И никто пока не сумел более ярко выразить понимание американцами идеалов своей политической системы. Конституция, законодательство и традиции Соединенных Штатов обеспечивают народу право решать, кому возглавлять нацию, кому принимать законы, какими этим законам быть. Народ властен изменить систему. Конституция гарантирует свободу личности каждому.

### Истоки демократии

Концепция выборности должностных лиц согражданами и участия граждан в законотворчестве возникла задолго до Соединенных Штатов. Демократия в тех или иных формах существовала еще в Афинах и иных городах-государствах Древней Греции. Само слово "демократия" греческого происхождения и означает "власть народа".

На протяжении веков после того, как демократические формы правления пали в древней Элладе, их принципы и идеалы редко где находили практическое воплощение. По большей части народы управлялись императорами, королями и королевами либо элитарными кликами, не имея доступа к участию в управлении, за исключением определенных аристократических кругов. Так обстояли дела в Европе в 1492 году, когда итальянец Христофор Колумб повел корабли, предоставленные королевской четой Испании, на запад в поисках нового пути в Азию и высадился на берегах Нового света.

### Новый свет

Новый свет образовывали материки, именуемые сегодня Северной и Южной Америкой. До великого путешествия Колумба большинство европейцев и не знало о существовании этих гигантских континентов. Всего же несколько лет спустя ведущие европейские державы уже предъявляли права на огромные территории обоих континентов и основывали колонии для поддержки своих притязаний.

К началу 18-го века Англия основала тринадцать колоний в восточной части нынешних Соединенных Штатов. В основном колонистами были выходцы из Англии либо иных земель Британских островов — Шотландии, Ирландии и Уэльса. Но было и много немцев в Пенсильвании, шведов в Делавэре и голландцев в Нью-Йорке, первоначально ими же и основанном под именем Новая Голландия, но захваченном Британией в 1664 году.

Одних из первых британских поселенцев привела в Новый свет надежда разбогатеть, других — смутьянов и неплательщиков налогов — вынудили перебраться туда британские власти. Многих Новый свет соблазнил возможностями, заказанными им в Европе: владеть землей и работать по специальности. Но имелись и иные побудительные мотивы к эмиграции, которые в конечном счете и оказали столь глубокое воздействие на формирование политической системы Соединенных Штатов.

На протяжении длительного исторического процесса национального развития в Великобритании сложился ряд демократических традиций. Англия (в том числе и Уэльс) имела парламент, издававший законы, и британцы в большинстве своем обладали известной степенью личных свобод. В то же время в Англии существовала официальная государственная религия — англиканская церковь, и те, кто не принимал ее, нередко подвергались гонениям. Многие, подобно обосновавшимся в Массачусетсе пуританам, и эмигрировали в колонии ради возможности свободно практиковать свою веру, не подвергаясь за это притеснениям. Хотя сами пуритане у себя в Массачусетсе никаких иных религиозных воззрений не терпели, колонисты-пионеры часто предоставляли приют тем, кто был вынужден покинуть родину из-за преследований на религиозной почве. Мэриленд был основан как убежище для католиков. Король Джеймс II предоставил обширные земельные владения в Новом свете Уильяму Пенну, члену религиозного Общества друзей (квакеров), в которых Пенн основал колонию Пенсильвания, где установил законы, охраняющие свободу вероисповедания и слова. Эти законы также обеспечивали пенсильванцам возможность участия в управлении делами колонии. Поэтому в ней охотно оседали многие беженцы из Европы, в том числе и немало немцев. Пример таких людей, как Уильям Пенн, служил распространению в колониях демократических идеалов и практическому их воплощению.

Способствовал укреплению идей демократии и образ жизни колоний. Колонисты, оставившие далеко за океаном родные края, осваивали девственные леса и малонаселенные земли. Приходилось объединять усилия, чтобы обрести кров, добывать пищу, расчищать землю под фермы, в общем — обживать новую родину. Насущная потребность в сотрудничестве в сочетании с верой в индивидуализм укрепляла представление о том, что в Новом свете люди равны, что ни у кого не должно быть особых прав и привилегий.

Каждая колония имела собственное правительство. Некоторые из этих правительств были установлены первопоселенцами и обладали весьма демократическими чертами. В северных колониях Новой Англии, например, проводились городские собрания, на которых колонисты вырабатывали законы, регулировавшие их жизнь. Другими колониями управляли представители британской короны, но всегда с известным совещательным участием колонистов.

### Война и независимость

С течением времени колонисты начали испытывать недовольство британским владычеством. Метрополия требовала от них уплаты налогов на содержание администрации колоний, но отказывала им в праве участия в принятии законов о налогообложении. В колониях были расквартированы британские войска, и многим колонистам приходилось держать солдат на постое у себя дома. Метрополия решала, что колонистам производить и с кем торговать.

Собравшаяся в 1774 году группа руководителей колоний сформировала Континентальный Конгресс, доведший до сведения монарха убеждение колонистов в том, что как свободные англичане они считают себя вправе участвовать в разработке законов, регулирующих их собственную жизнь. Ни король, ни его консервативное правительство не проявили внимания к заботам колонистов, вызвав у многих из них ощущение несправедливости, которое и послужило причиной требования независимости от Британии. В 1775 году начались бои между ополченцами Новой Англии и британскими солдатами.

Четвертого июля 1776 года Континентальный Конгресс выступил с Декларацией Независимости. Документ, написанный Томасом Джефферсоном, фермером и юристом из колонии Вирджиния, излагал многочисленные претензии к королю и провозглашал, что впредь "Соединенные Колонии" не являются более колониальными владениями Британии. Декларация провозгласила их "свободными и независимыми штатами", дав им официальное наименование Соединенные Штаты Америки.

Декларация Независимости не только возвестила превращение бывших колоний в новое государство, но и провозгласила основные идеалы американской демократии, заявив, что все люди созданы равными и все имеют право "на жизнь, на свободу и на стремление к счастью" и что власть правительства основывается "на согласии управляемых".

С помощью Франции, извечного врага Британии, а также и других стран Европы американские армии под руководством Джорджа Вашингтона, землеустроителя и землевладельца из Вирджинии, выиграли войну за независимость. Мирный договор, подписанный в 1783 году, установил западную границу нового государства по реке Миссисипи. Соединенные Штаты распростерлись почти на одной трети восточного побережья Северной Америки.

### Статьи Конфедерации

К заключению мира Соединенные Штаты отнюдь не пришли той единой нацией, какой являются сегодня. Напротив, они были ассоциацией тринадцати бывших колоний, отныне именуемых штатами. Каждый имел собственное правительство и во многом функционировал как самостоятельное государство. Каждый штат имел собственное законодательство и сам управлял внутренними делами. Во время войны штаты договорились о сотрудничестве, для чего направили своих делегатов в Национальный конгресс, созданный по образцу Конгресса делегатов, который вел войну с Англией. После победы конгрессу надлежало вести лишь те дела и проблемы, с которыми каждый штат по отдельности справиться не мог. Конгрессу надлежало изыскивать средства для уплаты военных долгов, установить систему денежного обращения и заключать договоры с иностранными государствами. Соглашение, в рамках которого был определен данный план сотрудничества штатов, получило название Статей Конфедерации.

Оно оказалось недолговечным из-за неспособности штатов сотрудничать как между собой, так и с Конгрессом. Когда Конгрессу потребовались деньги для уплаты жалованья национальной армии, а также долгов Франции и другим государствам, ряд штатов отказались вносить свой вклад. Конгресс не имел полномочий обязать тот или иной штат выполнять свои постановления. Конгресс не имел права налогообложения граждан. Собирать с американцев налоги могло лишь правительство штата, в котором они проживали.

Многие американцы с тревогой смотрели в будущее. Как добиться уважения иностранных государств, если штаты отказываются платить долги? Как развивать страну, строить дороги и каналы, если штаты отказываются сотрудничать друг с другом? Конгрессу, считали они, должны быть предоставлены более широкие полномочия.

Руководители ряда штатов видели необходимость сильного центрального правительства, обладающего достаточной властью для решения задач общенационального значения. Многие американцы выступали против концепции создания сильного центрального правительства, опасаясь ограничения своих свобод и прав штатов на самоуправление.

Большинство тем не менее сходилось на необходимости изменений Статей Конфедерации. Конгресс предложил всем штатам направить делегатов на конвент в Филадельфию, город, где была подписана Декларация Независимости. Конвенту предстояло обсудить изменения, необходимые для упрочения Статей Конфедерации.

Приехали делегации двенадцати штатов. Род-Айленд — самый маленький штат — участвовать отказался. Съезд, позже вошедший в историю как Конституционный Конвент, открылся в мае 1787 года под председательством Джорджа Вашингтона, героя войны за независимость. Присутствовали еще пятьдесят четыре делегата. Одни выступали за сильное новое правительство. Другие — против. Дискуссии велись глубокие, и Конвент проработал намного дольше, чем кто-либо мог предположить, завершившись 17 сентября спустя четыре месяца после начала.

### Конституция

В процессе работы Конвента делегаты, сознательно превысив свои полномочия, разработали для Соединенных Штатов форму правления. План его был изложен самым простым языком в документе, озаглавленном "Конституция Соединенных Штатов". Эта Конституция создала федеральную систему с сильным центральным правительством. Федерация подразумевает разделение власти между центром и членами федерации, резервируя за каждой стороной определенные права. Конституция предусматривала также избрание руководителя страны, Президента. Согласно ей, федеральные законы надлежало принимать лишь Конгрессу, составляемому из избираемых народом представителей. Предусматривала Конституция и общенациональную систему судебной власти, возглавляемую Верховным судом.

Создавая Конституцию, делегаты Конвента должны были учитывать два основных опасения, разделяемых большинством американцев.

Во-первых, что какое-либо лицо или группа лиц в центральном правительстве сконцентрирует в своих руках либо захватит власть над страной и создаст режим тирании. Оберегая страну от подобного, делегаты разработали систему управления, состоящую из трех властей — исполнительной, законодательной и судебной. Каждый вид власти имеет полномочия, которых нет у двух других, и каждая обладает возможностью противостоять и другой, сдерживая ее вредоносные действия.

Во-вторых, что новое центральное правительство ослабит или аннулирует права штатов управлять своими внутренними делами. Конституция решает проблему, конкретно определяя полномочия, отведенные центральному правительству, и полномочия, закрепленные за властями штатов. За штатами закреплялось право вести внутренние дела по собственному усмотрению при условии соблюдения демократических норм правления.

С целью подчеркнуть демократический характер Конституции она открывается преамбулой, четко выражающей, кто устанавливает форму правления: "Мы, народ" и зачем: "в целях... содействия общему благосостоянию и обеспечения нам и нашему потомству благ свободы".

Многие испытывали подозрения. Шестнадцать делегатов отказались подписать документ. Новая форма правления могла вступить в силу, лишь получив поддержку большинства граждан девяти из тринадцати штатов. Сторонники Конституции упорно отстаивали ее в жарких устных и печатных дискуссиях. Наконец, они одержали победу, но штаты четко высказались в пользу введения одного дополнения сразу по вступлении новой формы правления в силу.

Представители различных штатов отмечали, что Конституция не содержит статей, которые гарантировали бы свободы, основные права и привилегии граждан. И если делегаты Конвента не сочли нужным включать в Конституцию подобные гарантии, то в народе многие на подобных письменных гарантиях против тирании настаивали. Так в Конституцию был введен Билль о правах.

Конституция вступила в силу в марте 1789 года. Билль о правах, состоящий из десяти дополнений, именуемых поправками к Конституции, был введен в нее в 1791-м. С годами принимались и другие поправки. К 1985 году их накопилось еще шестнадцать, но в целом политическая система, созданная Конституцией и Биллем о правах, и сегодня в основном носит тот же характер, что в 1790 году. Процессы, столь сильно изменившие облик мира на протяжении последних 200 лет, требуют относиться к Конституции как к живому творческому документу, открытому интерпретации ученых и юристов, призванных приводить ее положения в соответствие с факторами, которые невозможно было предвидеть в период ее создания.

### Законодательная власть

Законодательная власть комплектуется представителями, избираемыми от всех штатов, и единственная имеет право устанавливать федеральные законы, вводить и собирать федеральные налоги, объявлять войну и вводить в действие договоры с иностранными государствами. Законодательную власть олицетворяет Конгресс, состоящий из двух отделений, именуемых палатами:

● Палата представителей состоит из законодателей, избираемых на два года. Каждый член Палаты представляет округ своего родного штата. Количество округов в штате определяется на основе подсчета населения, проводимого каждые десять лет. Штаты с большей плотностью населения имеют больше округов и, соответственно, больше представителей, чем менее населенные штаты, некоторые из которых имеют в Палате лишь по одному представителю. В 1980-х годах Палата представителей Соединенных Штатов состоит из 435 представителей.

● В Сенат входят законодатели, избираемые сроком на шесть лет. От каждого штата, независимо от количества населения, избирается два сенатора. Таким образом обеспечивается равное представительство малых штатов в одной из палат Конгресса. График выборов в Сенат построен так, что каждые два года переизбирается лишь одна треть сенаторов, благодаря чему после каждых выборов в составе Сената остается известное количество опытных деятелей.

Главной обязанностью Конгресса является принятие законов, в том числе и законов о налогах, из которых оплачивается деятельность федерального правительства. Закон начинается с внесения законопроекта, именуемого "биллем". Его читают и изучают в комиссиях, комментируют и вносят в него поправки в той палате, где он был внесен. Затем проводится голосование. Если законопроект одобряется, он направляется в другую палату, где проходит аналогичную процедуру. Если палаты принимают различные редакции одного и того же законопроекта, представители обеих палат совместно работают в "согласительных" комиссиях. Группы, пытающиеся убедить конгрессменов голосовать "за" или "против" того или иного законопроекта, именуются "лоббистами". Пройдя обе палаты Конгресса, согласованный законопроект направляется на подпись Президенту. Только после того, как его подпишет Президент, законопроект становится законом.

**Информационное агентство США, 1989 год.**

**(Продолжение следует.)**

